# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна
**Банкавае конто:** Administration der weissruthenischen Zeitung „Baćkauscyna“, Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“ |
|---|---|---|

№ 46 (228) — Нядзеля 12 сьнежаня 1954 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 8


# Адзіна рэальная канцэпцыя

**ПРАГРАМА ЦІ ТАКТЫКА?**

На балонах нашае газэты мы часта пішам аб коэгзыстэнцыі, г. зн. аб суісnаваньні ці, правільней, аб магчымасьці ці канечнасьці суіснаваньня між камунізмам і дэмакрацыямі, між Усходам і Захадам. Слова «коэгзыстэнцыя» сяньня на столькі сталася модным, папулярным і неадлучным, што ня сходзіць яно з балонаў сусьветнае прэсы, скланяецца цераз усе склоны выдатнымі палітыкамі й дзяржаўнымі мужамі. Гэты лёзунг сяньня поўнасьцю падмяніў ранейшы лёзунг «паўстрымоўваньня» (кантэйнмэнт) і пакінуты ў сваім зародку пазьнейшы лёзунг «вызваленьня» ды стаўся выказьнікам палітыкі Захаду ў дачыненьні да Савецкага Саюзу.

Перад кажным думаючым чалавекам вырынае пытаньне, ці гэты модны лёзунг коэгзыстэнцыі зьяўляецца толькі тактычным ходам заходняе палітыкі, які прыкрывае няведамыя нам глыбейшыя мэты, ці зьяўляецца палітычнай праграмай, устаноўленай на даўжэйшую мэту. Шукаючы адказу на гэтае пытаньне, чалавек пачынае проста губляцца ў заблытаным клубку дзіўных для яго супярэчнасьцяў. Няма ніякае падставы думаць, каб палітыка коэгзыстэнцыі магла быць толькі тактычным манэўрам Захаду, бо ня відаць ніякай мэты, якой патрабавала-б такая тактыка служыць. Гэткая тактыка магла-б мець перад сабой адну зь дзьвюх мэтаў: а) або Захад намагаўся-б лёзунгам аб коэгзыстэнцыі ўсыпіць чуйнасьць Савецкага Саюзу, каб потым раптоўна й неспадзявана на яго ўдарыць, г. зн. распачаць прэвэнцыйную вайну супраць бальшавізму; б) або Захад, чуючыся загрожаным хуткім такім-жа ўдарам на яго, стараўся-б залагодзіць ворага, каб як мага на даўжэй адцягнуць гэты ўдар і належна прыгатавацца яго спаткаць.

Абедзьве гэтыя дылемы сяньня выключаюцца. Захад ня можа, ня думае й ня хоча распачынаць прэвэнцыйнай вайны супраць Савецкага Саюзу, бо ўжо сама дэмакратычная сыстэма і тэарэтычна і практычна выключае магчымасьць прэвэнцыйнай вайны. Тэарэтычна таму, бо гэта пярэчыць аснаўным прынцыпам дэмакратызму. Практычна вайна такая пры дэмакратычнай сыстэме немагчымая ўжо таму, што прыгатаваньні да яе ня могуць быць захаваныя ў сакрэце і вораг заўсёды будзе папярэджаны. Мала прыняць такую або іншую пастанову ў генэральным штабе і распрацаваць такі або іншы плян апэрацыяў, мала ўзгодніць супольныя дзеяньні штабаў цэлага раду дзяржаваў, што магло-б тэарэтычна астацца ў сакрэце, але пры дэмакратычнай сыстэме мусіць у першую чаргу быць да вайны прыгатаванай псыхалягічна маса, народ. А гэтага ўжо ў сакрэце ўтрымаць нельга.

З другога боку сяньня зьяўляецца аксіёмай, што Савецкі Саюз сяньня вайны ня хоча, бо ня чуецца да яе прыгатаваным, а значыцца яе не распачне. Новая сусьветная вайна, у якой выступіў-бы адкрыта Савецкі Саюз, магла-б скончыцца для яго вельмі трагічна, і гэта валадары Крэмля дасканальна разумеюць. Затое пэрыфэрыйныя войны, ведзеныя чужымі рукамі за «нацыянальнае вызваленьне» каляніяльных народаў, у якіх Савецкі Саюз захоўвае поўны «нэўтралітэт», зьяўляюцца для Крэмля вельмі выгадныя: і рызыкаваць нічым ня трэба, бо Саветы-ж «нэўтральныя», і выйгрыш амаль пэўны. Сьвежымі гэтага прыкладамі былі нядаўныя падзеі ў паўдзённа-ўсходняй Азіі. Значыцца, у бліжэйшым часе адкрытая савецкая агрэсія Захаду не пагражае.

Дык астаецца тады ўважаць, што заходняя палітыка коэгзыстэнцыі з камунізмам не зьяўляецца ніякім тактычным манэўрам, але ёсьць палітычнай праграмай, г. зн. мэтай самой у сабе. Мала гэтага! Коэгзыстэнцыйная канцэпцыя ня столькі выводзіцца з урадавых і дыпляматычных кабінэтаў, сколькі зьяўляецца накінутай зьнізу. Сярод заходніх грамадзянстваў і народаў усякая вайна, хоць-бы яна для будучыні і была канечная, як адзіны выхад, каб гэтую будучыню забясьпечыць, зьяўляецца, як ведама, больш чымся непапулярная. Таму заходні бюргэр хапаецца за ўсякую канцэпцыю, якая, на ягоную думку, адаляе гэтую вайну, як тонучы за брытву, ня хоча нічога думаць аб тым, што будзе заўтра, абы толькі спакойна пражыць сяньняшні дзень, корміць сябе ўсякімі ілюзіямі, прымушае сябе верыць у кажнае пустое слова і аблуднае запэўненьне, якое выходзіць з Крэмля і яго ўспакойвае. Калі сяньня на Захадзе знаходзім мноства ўсякіх недарэчных тэорыяў і несамавітых інтэрпрэтацыяў савецкае палітыкі, дык ёсьць гэта ня што іншае, як панічныя ўцёкі ад запраўднасьці і закрываньне вачэй на няўхільную небясьпеку. І вось гэтыя настроі маюць свой бяспрэчны ўплыў і на палітыку, якая з воляю масаў змушэная лічыцца.

Але ня толькі гэтыя настроі масаў маюць свой дэцыдуючы ўплыў на фармаваньне заходняе палітыкі. Ёсьць яшчэ іншыя дзейнікі, якія магчыма ў большай яшчэ меры ўплываюць на палітычныя канцэпцыі Захаду.

**ЗМАРНАВАНЫЯ МАГЧЫМАСЬЦІ**

У гісторыі апошняга дзесяцігодзьдзя мелі месца дзьве спрыяльныя сытуацыі, пры якіх лёгка мог быць калі ня зьнішчаны, дык прынамсі на даўжэйшы час або й назаўсёды абясшкоджаны Савецкі Саюз, гэтая мадэрная цьвярдыня расейскага імпэрыялізму і сусьветнага камунізму. Першай такой нагодай была наяўнасьць у Амэрыканцаў атамнай бомбы пры ейнай адсутнасьці ў Саветаў. Але ў той час ніхто на Захадзе ня мог пагадзіцца з думкай, што некалькі год пазьней Савецкі Саюз станецца няўхільнай загрозай, якой ён ёсьць сяньня. Перасьцярога Чэрчыля, выказаная ў ягонай гістарычнай прамове ў канадыйскім горадзе Фультон у 1946 годзе, што найвышэйшы час мабілізаваць усе сілы, каб адхіліць савецкую загрозу, была голасам, клікаючага на пушчы. А ў той час вялізарнай мілітарнай перавагі Захаду, якую яму даваў манаполь на атамную бомбу, навет сьціраванае да Саветаў ультыматум, моцна падпёртае палітычнай дзейнасьцю, магло-б зрабіць тое, што ў іншых абставінах зрабіць можа толькі вайна.

Другой такой нагодай была сьмерць Сталіна, якой Захад ня ўмеў выкарыстаць. У заходніх палітычных колах узяла тады верх думка, што пасьля сьмерці ўсяўладнага дыктатара ў Савецкім Саюзе пачнуцца на нізох масавыя забурэньні й фэрмэнты, якія могуць выліцца ў нутраную рэвалюцыю пры зусім тады праўдападобнай эвэнтуальнасьці змаганьня за дыктатарскую спадчыну на вярхох савецкага алімпу. На Захадзе тады памылкова ўважалі, што ўсякае вонкавае ўмяшаньне толькі паможа нутранай кансалідацыі ў Саветах перад загрозай небясьпекі звонку і спыніць працэс нутранага раскладу савецкай сыстэмы. У сувязі з гэтым у дачыненьні да Савецкага Саюзу Захад у той час заняў пазыцыю зусім пасыўную й вычэкваючую, а агульным лёзунгам было: ня ўмешвацца ў савецкія нутраныя справы і дазволіць на натуральнае разьвіцьцё падзеяў, якое можа прынесьці жаданы вынік. Хутка пасьля гэтага сталася ясным, што Захад у сваіх меркаваньнях балюча пералічыўся.

**СТРАХ ПЕРАД АТАМНАЙ АДПЛАТАЙ**

Пасьля таго, калі Савецкі Саюз выпрадукаваў атамную бомбу, а фактычна выкраў ейны сакрэт ад Захаду, здабыўся навет на вадародную бомбу ды поўнасьцю апанаваў нутраную сытуацыю пасьля сьмерці Сталіна, сытуацыя ў сьвеце зьмянілася. Сяньня Захад ужо ня мае ніякай радыкальнай перавагі над Саветамі ў сэньне мілітарным. Страта

(Заканчэньне на 3-яй балоне)

# Палітычныя забойствы у Мюнхэне

Пад гэткім, ці прыблізна гэткім загалоўкам зьявіўся апошнімі днямі рад артыкулаў у нямецкай штодзённай прэсе.

Два месяцы таму жалобнае паведамленьне ў «Бацькаўшчыне» аб трагічнай сьмерці Лявона Карася, працаўніка радыя «Вызваленьне», было немалым шокам для бальшыні чытачоў. Да гэтага далучалася зьдзіўленьне, чаму «Бацькаўшчына» паведамляе аб гэтым выпадку з такім спазьненьнем. Ляканічная форма паведамленьня ня кідала шмат сьвятла на зьмест трагэдыі.

На ўсё гэта былі свае прычыны. Спачатку — фармальная забарона паліцыйных уладаў. Таму маўчалі аб гэтым навет тыя мясцовыя газэты, для якіх выпадкі гэтакага роду — гэта штодзённы хлеб. Пасьля прыйшлі алюзіі, што расьпісваньне ў прэсе можа пашкодзіць дасьледваньню справы. Таму акрамя абвесткі ў чорных рамках ды цёплага слова сябры, беларускі чытач нічога не пачуў з прэсы. Навет не даведаўся, у якіх абставінах зьгінуў Карась, не даведаўся, што ягоныя паховіны былі заадно маніфэстацыяй салідарнасьці паняволеных народаў у барацьбе за свабоду й незалежнасьць. І хоць афіцыйна нічога ня было ведама, для іх ня было сумлеву, чаму ды за што згінуў Карась. А паліцыя маўчала. Калі да яе зварочваліся па дэталі, яна часта давала супярэчныя, навет часамі дыямэтральна супрацьлежныя інфармацыі. Чаму? Аптымістыя казалі: «Нямецкай паліцыі можна верыць. Яна мае свае прычыны гэтак паступаць, а справы не закіне датуль, пакуль яе грунтоўна ня выясьніць». Пэсымістыя (ці мо' рэалістыя) толькі ківалі галовамі: «Не забывайцеся, што ён безьдзяржаўны чужынец; калі-б было йнакш, дык другая справа ...»

Хто зь іх меў рацыю?

І вось нядаўна здарылася іншае забойства. Абдул Фаталібэйлі, шэф азэрбайджанскага аддзелу радыя «Вызваленьне», быў знойдзены ў пакоі, з праламаным малатком чэрапам. Нямецкая прэса падала аб гэтым кароткія зацемкі. Толькі калі стала ведама (мо праз выпадак), што забіты зьяўляўся працаўніком радыя «Вызваленьне», газэты загаварылі інакш. Хутка адкапалі й супаставілі таямнічую сьмерць Карася. Вось як піша аб гэтым нюрнбэрскі штодзёньнік «8 Uhr-Blatt» з 1-га сьнежаня:

«Апошнімі тыднямі ў Мюнхэне здарыліся найменш два палітычныя забойствы ... Як мы даведаліся колькі гадзін таму, паліцыя дасьледуе цяпер гэтыя таямнічыя выпадкі, аднак сьледства ахоўваецца поўным маўчаньнем ...

«14-га верасьня, пры Вітэльсбахскім мосьце было знойдзена ў Ізары цела 31-гадовага Леаніда Карася, які быў замэльдаваны зьніклым ад 7-га верасьня. Аб зьнікненьні замэльдавала ... радыё «Вызваленьне»! Утоплены быў працаўніком беларускае сэкцыі гэтага радыя!

«Крымінальная паліцыя падала свайго часу, што быццам гэта самабойства або няшчасны выпадак ... У паінфармаваных колах гэткая заява выклікала толькі ўсьмешкі. І вось ад учарайшага дня пачалося новае сьледзтва!»

Іншыя газэты, як «Старс энд Страйпс», «Зюддойчэ Цайтунг», «Абэндцайтунг» і г. д. гэтаксама супастаўляюць дзьве сьмерці ды таямнічыя абставіны ў вабодвых выпадках. І слушна пытаецца «Абэндцайтунг»: «Ці паліцыя нічога ня знае, ці ня хоча нічога сказаць?»

Адказу на гэта пакульшто няма. Мы мусім задаволіцца кароткай заявай Старшыні Камісіі ў Справах Забойстваў, што сьледзтва вядзецца. Аднак мы маем права і мусім паставіць пытаньні:

**Ці нямецкая паліцыя сваечасова зрабіла ўсё магчымае, каб выкрыць вінаватых?**

**Ці кіравецтва радыя «Вызваленьне» прыймае мінімальныя меры, каб адхіліць падобныя выпадкі?**

Незалежна ад адказу, мы, палітычныя эмігранты, змаганьня ня спынім — як ня спыніць яго наш народ на Бацькаўшчыне. Ёсьць усе падставы думаць, што акцыя тэрору супраць актыўных будзе працягвацца. Ды як-жа наіўныя ворагі, калі гэтым намагаюцца спыніць нашу працу! Факт тэрору — гэта найлепшы довад эфэктоўнасьці яе. Запалохаць нас ня ўдасца. Месца вырзаных з нашых радоў запоўняць іншыя. Пры патрэбе-ж гэтыя рады падвояцца.

Мы, Беларусы, мелі сумны гонар быць першым аб'ектам тэрору. Цяпер-жа, схіляючы галаву перад магілай Азэрбайджанца Абдула Фаталібэйлі — новай ахвяры ў барацьбе — мы толькі скажам: НЕ АДСТУПІМ!

**У. С.**

# Перад дэкадай беларускае літаратуры й мастацтва

У канцы гэтага году адбудзецца ў Маскве дэкада беларускае літаратуры й мастацтва. Менскія культурныя заправілы пад напорам прапагандовых патрэбаў партыі ліхаманкава рыхтуюцца да чарговае дэманстранцыі дасягненьняў беларускай культуры, «сацыялістычнай па зьместу» і быццам-бы «нацыянальнай па форме». Перад арганізатарамі дэкады стаіць складанае заданьне, якое заключаецца ў тым, каб з усяго прапагандовага хламу, сабранага за апошнія гады, скелеціць «паказ на высокім ідэйна-мастацкім узроўні».

З газэты «Літаратура і Мастацтва» за 16-га кастычніка сёлета мы даведваемся, што «тэатральнае мастацтва Беларусі на дэкадзе будуць прадстаўляць чатыры вядучыя калектывы рэспублікі: Тэатр опэры й балету, Драматычныя тэатры ймя Я. Купалы і ймя Я. Коласа і Расейскі дзяржаўны тэатр БССР. Кажны зь іх уключае ў свой рэпэртуар па чатырыпяць дэкадных спэктакляў».

Аднак гэтыя «дэкадныя спэктаклі» аказваюцца даволі падношанымі штампамі: «У Маскве», — піша «Літаратура і Мастацтва» ў сваёй передавіцы, — «будзе паказана каля дваццаці спэктакляў, але з гэтай колькасьці толькі два — аб сучасным жыцьці беларускага народу. Пераважная большасьць дэкадных спэктакляў пастаўлена некалькі год назад ... За доўгі час свайго сцэнічнага жыцьця многія спэктаклі страцілі сваю першапачатковую маладосьць і сьвежасьць. Некаторыя зь іх абрасьлі тоўстым напластаваньнем акторскіх штампаў, згубілі тэмп і мастацкае аблічча.

«Музычнае, шумавое і сьветавое афармленьне ў большасьці пастановак знаходзіцца ў запушчаным стане.»

Мала таго, што гэтыя прапагандовыя трафарэты без «маладосьці, сьвежасьці й мастацкага аблічча», дык яны яшчэ выконваюцца на збэшчанай і пакалечанай беларускай мове. Навет «Літаратура і Мастацтва» адважылася заявіць пра гэнае «моўнае пустазельле», якім напоўнены рэпэртуар беларускіх тэатраў:

«Сур'ёзная ўвага павінна быць зьвернута й на сцэнічную мову. Калектывам купалаўскага й коласаўскага тэатру трэба няшчадна выпалаць моўнае пустазельле, неахайнасьць із сваіх спэктакляў. Пакалечанае беларускае слова, якое часта можна пачуць із сцэны гэтых тэатраў, стварае няправільнае ўяўленьне аб беларускай мове.»

Крута таксама з дэкадным рэпэртуарам і ў канцэртных калектывах: «Дзяржаўны хор адчувае вострую патрэбу ў беларускай песьні, але саюз савецкіх кампазытараў БССР паранейшаму вельмі мала ўзбагачвае гэты жанр яркімі, высокамастацкімі творамі».

Аднак успомненая перадавіца «Літаратуры і Мастацтва» прабуе адзначыць і добрыя бакі падрыхтоўкі да дэкады (каб не закінулі паклёпніцтва на савецкую рэчаіснасьць!):

«Лепшую гатоўнасьць да гэтае адказнае падзеі можна адзначыць у Саюзе савецкіх пісьменьнікаў БССР. **Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдала ў васноўным творы беларускіх пісьменьнікаў, якія характарызуюць сабой ідэйнае й мастацкае аблічча беларускае літаратуры»** (падкрэсьленні нашыя — А. Б.).

Значыць выглядае, што зь беларускім друкам усё ў найлепшым парадку: пісьменьнікі й дзяржаўнае выдавецтва БССР могуць із спакойным сумленьнем везьці ў Маскву на паказ «ідэйнае і мастацкае аблічча беларускае літаратуры» і вынікі свае выдавецкае дзейнасьці. Што-ж яны павязуць туды? Чым займалася апошнімі гадамі беларускае выдавецтва, якое цяпер павінна было-б вылічыцца із свае дзейнасьці ня толькі перад Масквой, але й перад беларускім чатачом, на ўслугах якога яно павінна было-б, на добры лад, стаяць у першую чаргу. Каб ведаць, што рабіла дасюль гэтае выдавецтва, дык гляньма, чаго яно, беднае, яшчэ не зрабіла, а аб гэтым нам кажа той-жа нумар «Літаратуры і Мастацтва», толькі не ў перадавіцы на першай бачынцы, а ў вапошнім артыкуле на бачынцы трэцяй:

«Дзяржаўнае выдавецтва штогод выпускае многа кніг ... Але ў падборы твораў да выданьняў назіраюцца істотныя прабелы, якія тлумачацца тым, што выдавецтва не дастаткова прыслухоўваецца да голасу чытачоў. Мала зьвяртае ўвагі на гэтае пытаньне і Саюз савецкіх пісьменьнікаў БССР, які павінен рэкамендаваць да друку ня толькі новыя творы сучаных пісьменьнікаў, але й каштоўную літаратурную спадчыну.

«Ці задумаліся Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі і Саюз савецкіх пісьменьнікаў БССР аб тым, што **чытач ня можа прачытаць драматургічныя творы Якуба Коласа ў арыгінале? П'еса «У пушчах Палесься» наогул ніколі ня выдавалася ў арыгінале,** яна была толькі адзін раз апублікавана ў 1938 годзе ў часапісе «Полымя». **(У перакладзе на расейскую мову п'еса выдавалася ў Маскве тры разы!)** ... Ці-ж могуць вучні сярэдняй школы і студэнты добра ведаць творчасьць Я. Коласа, калі ўсю драматургію пісьменьніка яны навет прачытаць ня маюць магчымасьці. **Дайшло да таго, што настаўнікі, жадаючы паставіць з вучнямі п'есу «У пушчах Палесься», ідуць у Дзяржаўную бібліятэку БССР, бяруць кнігу на расейскай мове і самі перакладаюць зноў на беларускую мову тыя сцэны, якія ім патрэбныя.** (!!!)

«Вывучаючы творчасьць Максіма Багдановіча, нельга абмінуць яго прозы й артыкулаў па пытаньнях літаратуры й мастацтва, але **прачытаць большасьць апавяданьняў і артыкулаў пісьменьніка студэнты й асьпіранты ня маюць магчымасьці.»**

Апошняя ступень нахабства! Беларускае дзяржаўнае выдавецтва аказваецца расейскае й русыфікатарскае па форме й прапагандовае па зьместу. Бо калі Коласаву «У пушчах Палесься» трэба перакладаць з расейскае мовы, карыстаючыся эгзэмплярам дзяржаўнае бібліятэкі, дык можна сабе ўявіць, на якіх падстрэшшах трэба шукаць выданьняў беларускіх пісьменьнікаў, што ня выслужыліся так, як Колас, перад кампартыяй!

Як выглядае, дык «ідэйнае й мастацкае аблічча беларускае літаратуры» і дзейнасьць дзяржаўнага выдавецтва на дэкадзе ў Маскве будуць рэпрэзэнтаваць Броўкавыя падмаскоўныя тра-ля-ля і кучы падобнае падхвостае макулятуры. Беларускі-ж чытач будзе й надалей дарэмна чакаць выданьня твораў роднае клясыкі, і навет прапушчаныя цэнзурай рэчы саматужна перакладаць з расейскае мовы.

Русыфікацыя й духовыя злачынствы на Беларусі, расейскія па форме й па зьмесьце, ня маюць, відаць, ні канца, ні краю.

**А. БУДЗІЧ**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» НА 1955 ГОД**

**Кажны, хто падпісваецца на «Бацькаўшчыну» на год ці на паўгода згары, атрымлівае зьніжку падпісной платы. Такім чынам «Бацькаўшчына» каштуе: 1) у ЗША і Канадзе на год — 6 даляраў, на паўгода — 3,50 даляраў; 2) у Ангельшчыне й Аўстраліі на год — 2,50 фунтаў, на паўгода — 1,50 фунтаў; 3) у Францыі на год — 800 франкаў, на паўгода — 450 франкаў; у Бэльгіі на год — 210 франкаў, на паўгода — 120 франкаў; у Нямеччыне на год — 14 марак, на паўгода — 7,50 марак.**

# Дзесятая гадавіна сьмерці Кузьмы Чорнага

Десяць год таму, 22 лістапада 1944 г., раптоўна й перадчасна памёр адзін з найбольш таленавітых празаікаў-бэлетрыстых нашае літаратуры Кузьма Чорны. Сьмерць наступіла ад апаплектычнага ўдару пасьля таго, як пісьменьнік прыняў тэлефонны выклік ад ведамае, так прыкрае й грознае кажнаму савецкаму грамандзяніну ўстановы...

Мала каму ведамы гэты апошні факт і на эміграцыі, і ў Савецкай Беларусі. Бальшавікі пільна ахоўваюць гэтую таямніцу, як і таямніцу самагубства Янкі Купалы. Як і Купалу, Кузьму Чорнага няшчыра й аблыжна аплакваюць і ўзьвялічваюць. І калі не забудуцца й цяпер адзначыць дзесятыя ўгодкі ягонае сьмерці, дык, пэўна-ж, не пашкадуюць гэтае няшчырасьці ды аблыжнасьці й гэтым разам. Праўды-ж і аб сьмерці, і аб нявечаньні імі-ж жыцьці й творсьцьве пісьменьніка — напэўна ня скажуць. Але праўда, як-бы яе не хавалі, рана ці позна, а выходзіць наўзьверх, тайнае заўсёды з часам робіцца яўным. Праўда-ж сьмерці й жыцьця Кузьмы Чорнага — гэта адзін зь яскравых вінавальных актаў бяздушнаму катняму бальшавізму.

Кузьма Чорны (запраўднае прозьвішча — Мікалай Раманоўскі) нарадзіўся ў 1900 г. Бацька ягоны — мешчанін мястэчка Цімкавічы на Случчыне — адзін час служыў у вадным хвальварку, дзе на адзіноце й пражыў сваё маленства будучы пісьменьнік. Скончыўшы нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю й адбыўшы вайсковую службу, Чорны ў 1923 г. падаецца ў Меск з намерам вучыцца далей на ўнівэрсытэце. Але тут якраз і стае яму на дарозе ягонае, з савецкага гледзішча зусім ня бліскучае, «сацыяльнае паходжаньне». На ўнівэрсытэт Чорнага прыймаюць, але стыпэндыі не даюць, хоць ён і мае ўжо колькі напісаных і надрукаваных апавяданьняў, а стыпэндыі тымі часамі наагул даваліся кажнаму небараку, які праўдзіва ці няпраўдзіва мог выказацца сваім «бядняцкім паходжаньнем». Адылі, «небядняцкага паходжаньня» пісьменьніку, пазбаўленаму стыпэндыі, даводзіцца цяжка фізычна працаваць, каб жыць і вучыцца. Моцна падрываецца здароўе, даводзіцца легчы ў шпіталь, перанесьці апэрацыю. Па выйсьці з шпіталя няма чаго ўжо й думаць, каб зарабляць цяжкой працай на жыцьцё й вучэньне. Пісьменьніку ўдаецца ўладзіцца на працу ў рэдакцыю сялянскае газэты «Веларуская Вёска», але працы гэтае ўжо нельга сумясьціць з вучэньнем на ўнівэрсытэце, які даводзіцца канчальна пакінуць. Крыўду за гэты першы «падарунак» савецкае ўлады — няскончаны ўнівэрсытэт — усё сваё жыцьцё насіў у сабе пісьменьнік.

Рэдакцыйная праца наагул спрыяе глыбейшаму ўваходу пісьменьніка ў літаратурнае творства, хоць часам і накладае на яго свой спэцыфічны адбітак. Адылі, пісьменьнік расьце, у 1924 г. уваходзіць у літаратурную арганізацыю «Маладняк», як адзін з найвыдатнейшых маладых празаікаў. Адзін па адным зьяўляюцца зборнікі мастацкае прозы пісьменьніка — «Апавяданьні», «Срэбра жыцьця», «Па дарозе» — у 1925 г. «Пачуцьці», «Хвоі гавораць» — у 1926 г.

У весну 1926 г. Кузьма Чорны разам зь дзесяцьма сябрамі выходзіць з «Маладняка», засноўваючы славутае Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне «Узвышша», у якім адразу-ж абіраецца за старшыню й на гэтым пачэсным становішчы застаецца аж да гэтак званага «самаразьвязаньня» згуртаваньня ў канцы 1931 г. У «Узвышшы» пачынае мужаць талент Кузьмы Чорнага. У 1927 г. ён друкуе ў часапісе згуртаваньня свой першы раман «Сястра», у 1928 г. выходзіць асобным выданьнем другі й адзін зь лепшых пісьменьнікавых раманаў — «Зямля». Калі «Сястра» прызнаецца бальшавіцкай крытыкай за «несавецкі» твор «ніякага часу», дык «Зямля» ўжо войстра атакуецца як твор «выразна кулацкі». Адылі, пісьменьнік тады яшчэ ня толькі не праймаецца гэтым, а навет натхняецца на новыя творчыя замыслы й пачынаньні.

Але вось пад канец 1929 г., у межах пачатага бальшавікамі паходу на беларускую культуру пад шыльдай «змаганьня зь беларускім нацыянал-дэмакратызмам» разгараецца пагромная кампанія і супраць «Узвышша» з мэтай змусіць згуртаваньне «раззброіцца й прызнаць свае памылкі». Пад цяжкімі ўдарамі друку й самых вышэйшых кіраўнічых установаў згуртаваньне рашчапляецца ўнутры на бальшыню, што траціць волю да змаганьня, і апазыцыйную мяншыню. Пасьля даўгіх і балючых хістаньняў заломваецца й Кузьма Чорны, пераходзячы на бок бальшыні й адыходзячы ад найбліжэйшых сваіх сяброў — Адама Бабарэкі, Уладзімера Дудоўкі, Язэпа Пушчы й інш., што да канца трымаюць сьцяг апазыцыі.

Пачынае паддавацца пісьменьнік і завойстранаму тымі часамі цэнзурнаму ціску, ды пад ім псаваць і нявечыць свае творы. Рэтак на жаданьне тае цэнзуры ім «дапісваецца» аповесьць «Лявон Бушмар» (1929 г.) з мэтаю аслабіць і неўтралізаваць надзвычайна моцна абмаляваную постаць «чалавека зямлі» — таго-ж «кулака» ў бальшавіцкай тэрміналёгіі; адылі, і пасьля гэтага крытыка ўсё-ж прызнае гэты твор за «рэакцыйную аповесьць». Пад тым самым ціскам Кузьма Чорны зусім нявечыць, гамтае й псуе мастацка раман «Ідзі, ідзі», задуманы ў глыбока нацыянальным духу й пачаты друкам у 1930 г. У 1931 г. пісьменьнік зусім перарабляе напісаную раней аповесьць «Вясна», зьмяняючы ранейшы «пасёлкава-прышчэпаўскі» фон на калгасны. Адылі, пачаты яшчэ ў 1927 г. і ведзены на тым-жа «пасёлкава-прышчэпаўскім» фоне раман «Вецер і пыл» пісьменьніку даводзіцца зусім кінуць, хоць твор гэты ён уважаў заўсёды за найдаражэйшую сваю справу, пісаў знарок не сьпяшаючыся й старэнна апрацоўваючы, лятуцеў здабыць у ім сваё найбольшае мастацкае ўзвышша...

Гэтак Кузьма Чорны «раззбройваецца» й «перабудоўваецца» на хаду, як гэта называлася тады. Дарагою цаною спакарэньня й зрады, нявечаньня й спыненьня лепшых і самому даражэйшых твораў выбаўляецца ён ад вастрожнае й выгнанскае долі сваіх непакорных апазыцыйных сяброў. Адылі, тая валадарная над доляю савецкага грамадзяніна ўстанова ня зусім пакідае пісьменьніка ў супакоі. Час-часом выклікаецца ён у брудныя ейныя сьцены, з-за якіх не заўсёды бывае зварот чалавеку. Асабліва пракудньмі робяцца гэтыя выклікі ў 1933 г., калі ў другой раце «нацдэмаў» пакутуюць за кратамі некаторыя пісьменьнікавы блізкія сябры, як знойдзены й выведзены ім у літаратуру малады празаік Лукаш Калюга ды інш. Нарэшце, калі ўжо падыходзіць да канца трэцяя рата вынішчэньня «нацыянал-фашыстых», у якія перахрышчваюцца тымчасам ранейшыя «нацдэмы» — адна з найбольш масавых ратаў, улучаная ў крывавую кампанію славутае «яжоўшчыны» — пасьля аднаго з тэлефонных выклікаў пісьменьнік затрымваецца ў гасьціннай установе на цэлыя восем месяцаў, зазнаючы нарэшце вастрожнае долі, пяражытае раней ці адным зь ягоных найбліжэйшых сяброў. Толькі блізкі канец тае «яжоўшчыны» выбаўляе пісьменьніка ад далейшых вынікаў тае долі, і ён ізноў апыняецца на «волі» — хоць і савецкай куртатай, а ўсё-ж нейкай волі супраць такое-ж беспрасьветнае няволі турмы й катаргі.

Калі выбухае савецка-нямецкая вайна, пісьменьнік, жанаты з «асобаю неарыйскага паходжаньня», ня можа рызыкаваць заставацца ў Менску. Адылі, ніхто й ня рупіцца ратаваць яго, і ўжо з ахопленага пажарамі Менску блізкі да поўнага псыхічнага заламаньня пісьменьнік вырываецца й кіруецца пехатою на ўсход із жонкаю й юначкаюдачкою Рагнедаю. Ужо нейдзе падарозе падбіраюць яго, прымайстроўваюць да антынямецкае ваеннае прапаганды, кідаюць час-часом у рызыкоўныя «партызанскія» авантуры... Сярод гэтага й надыходзіць той фатальны мамэнт тэлефоннага выкліку 22 лістапада 1944 г., які, пэўна-ж, ня мог пісьменьніку не прыгадаць падобнага выкліку за «яжоўшчыней», што тады яму абыйшоўся васьмімесячным астрогам, а цяпер, у суравейшых ваенных часох, мог суліць і куды цяжэйшыя выпрабаваньні...

Гэтак жыў і памёр Кузьма Чорны, пісьменьнік таленту, які ў нармальных і свабодных абставінах мог-бы прынесьці славу й яму, і ягонай бацькаўшчыне — можа й ня меншую, чымся слава, скажам, Эрнста Гэмінгвэя, што пачаў сваю пісьменьніцкую дарогу ў тым-жа 1923 г., як і Кузьма Чорны, дый часта ступаў па ёй вельмі блізкай да яго хадою, а цяпер прызнаны, ацэнены й адзначаны свабодным і культурным чалавецтвам. Адылі, зялезная заслона адгарадзіла й адгараджае ўсё большую і большую частку чалавецтва, аканоўваную на зялезную-ж няволю, пад якой ня можа выжыць аніводзін запраўдны талент на славу сабе, бацькаўшчыне, на спажытак усяму чалавецтву. І толькі калі падзе гэная заслона — а такі-ж падзе некалі, як не ад аднаго, дык ад другога ці трэйтяга — тады шчыра аплача і ўшануе векапомнасьцяй вольны народ усе ахвяры нячуванага гвалту й «прыгону над словам, над духам, над чынам». І толькі тады адчыніцца вольная й шырокая дарога талентам, якім дасца дайсьці тых узвышшаў славы, на дарозе да якіх былі груба запыненыя, зьнявечаныя дый зусім зьнішчаныя іхныя бяздольныя папярэднікі.

**Н. Нізоцкі**

# Кузьма Чорны супраць русыфікацыі

Мова мастацкіх рэчаў Кузьмы Чорнага, асабліва ягоных нявымушаных твораў, — гэта нязьмернае багацьце беларускага народнага слова. Тонкім вычуцьцём і глыбокім веданьнем беларускае народнае мовы пісьменьнік, як рэдка хто зь ягоных сяброў па пяру, адтвараў мастацкім словам і багатыя псыхічныя асаблівасьці сваіх беларускіх гэрояў. Урэшце, дапілноўваньне чысьціні роднае мовы, галоўным чынам перад засьмечваньнем яе русыцызмамі, і засталося пісьменьніку пасьля разгрому нацдэмаўшчыны адзіным спосабам супраціву перад насільлем над ягоным талентам і над усёй беларускай літаратурай.

Ніжэй зьмяшчаем урывак артыкулу К. Чорнага «Небеларуская мова ў беларускай літаратуры», напісанага ў 1928 годзе. Паводля ўзятага пісьменьнікам прыкладу, можна лёгка сьцьвердзіць, у якой форме «небеларускасьці» Кузьма Чорны бачыў найбольшую небясьпеку для беларускае літаратурнае мовы.

«У вадней п'есе ёсьць такая зьява:

«Бяжыць сялянка і крычыць: „У чым справа, у чым справа?" Няўжо гэта крычыць сялянка? Не, гэта крычыць сам аўтар п'есы. Ён думаў: „в чем дело" і пісаў „у чым справа". Дзе гэта аўтар чуў, каб сялянка гаварыла гэтак? Таму і чуецца тут фальш, таму і траціцца вобраз ці тып сялянкі...

«Вядома, што аўтар тут выказаў тое, што хацеў выказаць. Непаразуменьне сялянкі паказана. Але выказана ў гэтакай мове, што тып сялянкі, які, скажам, раней ужо ўяўляцца пачаў гледачу, разьбіўся й прапаў ад аднаго слова. Сялянка пачула нейкую нязвычайную гаворку, нейкі крык, убачыла незнаёмых людзей, устрывожылася і замест „што гэта робіцца?" або „што там гэта?", крычыць „у чым справа?" Аўтар падаў гэта па-свайму, сказаў гэта ад сябе, а не ад таго чалавека, якога хацеў паказаць.

«...Мова — жывая істота. Яна жыве, а ня існуе. Адным словам можна вельмі шмат выказаць, або тым-жа самым словам нічога не сказаць. І гэта навет можа быць ад таго, як гэта слова выгаварыць. Напрыклад, можна сказаць: „ты ня ведаеш". І можна сказаць: „вельмі ты ведаеш!" Выказана тое самае, але другі раз — мацней, навет з адзнакамі кпін. Але нашым літаратарам гэтае моўнае багацьце не абыходзіць. Вывучэньне мовы — гэта, кажуць, задача лінгвістаў, а пісьменьніку трэба ставіць праблемы, „адбіваць сучаснасьць". Але мала хто думае, што для гэтага патрэбна нейкая, калі льга так сказаць, рэчаіснасьць, нейкі матарыял. Усякі-ж ведае, што з дрэннага матарыялу навет кашаля не сплящеш, ні то што якога-небудзь твору».

**С. Ясень**

# Слуцкія ўгодкі ў Мюнхэне

Учора была сыбота. Над Мюнхэнам павіс мяккаваты лістападаўскі дзень. Цікава, якая пагода была на Случчыне 34 гады таму? — Крывавая...

Ініцыятыву сьвяткаваньня 34-х угодкаў Слуцку ўзяў на сябе старшыня камітэту. Дамовіўся, падрыхтаваў, паведаміў. Сабралася каля трыццамі асоб — пераважна «мюнхэнцы». Прыехаў спад Мюнхэну айцец Салавей. Адслужыў паніхіду, сказаў прыгожае казаньне. Трыццаць васковых сьвечак ірдзеліся ў лягернай царкве на Мозаху малітвай і цягласьцяй змаганьня. Прадаўжальнікі Слуцкае Дзеі...

Пасьля тут-жа, ля пасёлку, пачалася ўрачыстая акадэмія. Невялікі салён. На сьцяне завешана сьцяг. Пагоня накіравалася некуды ўверх — ні то ў столь, ні то ў неба. На стале апарат і замест традыцыйнага рэфэрату — сыботняя слуцкая праграма з радыё «Вызваленьне»: дэклямацыя, кароткі вобраз падзеяў, «Сьпі пад курганам...», нацыянальны гымн. Пераклічка загінутых. Лепш сказаць, сымбалічная пераклічка, бо ці пераклічаш усіх іх...

Тады гаварыў др. Жук, др. Станкевіч — горача, з запалам. Будзіч усхвалёвана прадэклямаваў свой верш. Ізноў гаварыў айцец Салавей — рэчова й канкрэтна: наладжаньне беларускага рэлігійнага жыцьця ў Мюнхэне — рэч важная. Успамінаючы сьмерць слуцкіх паўстанцаў, нарадзілася думка заснаваньня свайго прыходу, думка трапная, ахвоча прывітаная. У міжчасе быў пададзены абед, папярэджаны цудоўнымі песьнямі апрацоўкі й кампазыцыі М. Куліковіча, з такой беспасрэднасьцяй выкананымі сп-няй Б. Вержбаловіч і Галінай Г. з акардыёнам. Гэтае нагоды й шкадаваў найбольш у сваім лісьце хворы вэтэран Слуцкага Паўстаньня, сп. Кабычкін.

Увечары разыходзіліся па Мюнхэне ўдзельнікі слуцкіх угодкаў, горача паціскаючы на разьвітаньне адзін аднаму рукі.

**Я. Запруднік**

**Якуб Колас**

# Сымон Музыка

## ПАЭМА
(Працяг)

17)

Ён ціхутка бярэ скрыпку,
Адчыняе ў сад акно,
На дзяўчыну, сваю рыбку,
Сэрцу роднаю даўно,
Пазірае ў засмучэньні
І ён шэпча, бы ў натхненьні:
«Ты пачуеш голас мае песьні,
Мысьлі твае праясьняцца,
Згіне цемра, як гінуць туманы
У блеску сонца;
Зыйдзе ў душу тваю ўспакаеньне —
Выплыве сонца з зацьменьня!..»
На яе твары збалелым
Нейкі праблеск мільгатнуў,
Усьмех ціхі і нясьмелы
Яе вусны ўскалыхнуў,
Бы зарніца цені ночы.
Ён шчасьліў, бязьмерна рад;
Ён цалуе яе ў вочы
І з надзеяй ідзе ў сад,
Выбірае там мясьціну,
Як тады, у тую ноч —
Адратуе ён дзяўчыну,
Мрок з душы адгоніць проч!
Кінуў погляд ён нясьмела
У бок цёмнага акна,
І натхненна зазьвінела
Звонкаплыўная струна.
І гамоніць, як жывая,
У зялёным салашы,
Нібы срэбра разьлівае,
Рухі сэрца адбівае,
Звоніць водгульлем душы;
Галубком ляціць над борам,
Пчолкай зумкае ў гальлі
І імкнецца к ясным зорам
Палкай просьбаю зямлі.
І, здаецца, сама ночка
Гэтай просьбе спачувала:
Яна навет не гайдала
Ні галінкі, ні кусточка,
Ні былінкі, ні лісточка,
Ні на ніве каласочка.
І выразьней свае ніці
Месяц зьвешвае ў дно цьмы
І затрымлівае ў жыцьце
Сьмех нясьмелы, сьмех нямы.
І раптоўна моўкнуць струны,
Задрыжэў увесь пясьняр:
У вакне скрозь змрочча руны
Вырысоўваецца твар!
Ён глядзіць у ваняменьні,
Ён застыў, акамянеў, —
Дух надзеяй зарунеў,
Дух агорнут у сумненьне.

Ганна

Ці то сон, ці то здань?..
Чула музыку я!..
Не, то — мара мая...
Ах, адстань ты, адстань,
Сэрца мне ня тумань!
Ноч... Адчынена аконца.
Сад... Ён цёмны, ён глухі,
А мне смутненька бясконца,
Сон гняце мяне ліхі...
Вір... Я ў віры! я — русалка.
А як пеніцца вада!
Як гуляе на ёй скалка!..
Ой, бяда будзе, бяда!..

Сымон

Ганна, Ганначка! ня бойся:
Гэта я: ня зман, ня сон!..

Ганна

Ты? А хто ты?

Сымон

Я — Сымон.
Той музыка... Заспокойся!..

Ганна

Дык то праўда?.. Што са мною?
Дай успомніць!.. Душыць жвір,
Адабраў мне памяць вір,
Зацягае глыбінёю!..

Сымон

Вір? Ён зьнік, яго няма!
Паглядзі: сьвятлее ўсход,
Месяц кончыў свой абход,
Ноч праходзіць, нікне цьма —
Ты трывожышся дарма.
Ты, Ганулька, была хвора —
Проста трызьніла ты ў сьне.
Ты заснула пазаўчора,
А цяпер твой вір засьне!

Ганна

Сон, ты кажаш? І цяпер сон?
І ты сон?.. А праўда дзе?
А што гэта так гудзе?..
Страшна!.. Ох, як сьвет забэрсан!
Дай мне руку... Ну, во гэтак...
Гавары-ж мне, будзь са мной:
Чуць хачу я голас твой,
Бо твой голас — песьня кветак.

Сымон

Ганна-рыбка! ды ня бойся,
Заспакойся
І засьні.
Ты стамілася, галубка,
Ссохлі губкі,
Ты ў вагні.
Сьпі, я сон твой павартую,
Я цябе пакалышу —
Спаткі трэба малышу.
Люлі-люленькі малую!
Казку Ганначцы скажу я,
Вочкі-зоркі патушу:
«Раз зыйшла зь нябёс вясёлка
І ступіла на зямельку
Ды ўраніла там кудзельку,
Кудры ранічная золку,
На зямлю пасьцельку.
Спрала зорачка кудзелю,
Зладзіў месячык красёнцы,
А дзянёк саткаў на сонцы
Зь нітак красачку-лілею,
Гожую бясконца.
Хараством лілейка зьзяе,
Як дзяньніцы абуджэньне;
Яе белае адзеньне
Навакола разьлівае
Злотаблеск-ірдзеньне.
Усьміхалася ёй неба,
Пазірала вокам ласкі;
Ёй складалі байкі-казкі
Лес і поле морам хлеба,
Ёй сьпявалі краскі.
І была яна шчасьліва,
Бо любілі ўсе лілею.
Пчолка зумкала над ею,
Штось казала ёй жычліва
Гутаркаю тэю.
Лесны жаваранак вольны,
Снуючыся ў яснай сіні,
Песьню пеў у жытнім кліне
І будзіў прастор наддольны
І пяскоў пустыні.
І бывала, калі ў небе
Чуць прыжмураць вочкі зоры,
Ён імкнуўся ўжо ў прасторы;
Пеў ён песьні роднай глебе
І яе разорам.
А лілейка ў блеску росным
Ад тых песень замірала
І лісточкі расчыняла
Ды ціхутка, безгалосна
Песьняра зазвала.
Ён зірнуў на травы-руні,
Што рунелі на тым полі,

# Адзіна рэальная канцэпцыя

(Заканчэньне зь 1-ай балоны)

Захадам манаполю на атамную зброю не магла астацца без далёкасяжнага ўплыву на заходнюю палітыку. На даўжэйшую мэту ня можа мець значэньня факт, што Захад мае сяньня больш запас атамных і вадародных бомбаў ды знаходзіцца ў лепшай эканамічнай каньюнктуры, чымся Саветы. Гэтае сваё адставаньне Саветы раўнаважаць тым, што дзякуючы дыктатарскай сыстэме могуць дзеіць шыбчэй і спраўней ды не патрабуюць лічыцца з настроямі сваіх масаў. Апрача гэтага, яны не патрабуюць таксама лічыцца з колькасьцю ахвяраў у выпадку новай вайны. Крэмлёўскія верхаводы не захісталіся-б, прыкладам, выставіць на поўнае зьнішчэньне атамнымі бомбамі Масквы ці іншага важнага цэнтру, бо сьмерць мільёнаў ня мае для іх найменшага значэньня. Затое Амэрыка, дзе чалавек мае запраўдную цану, магчыма адмовілася-б ад навязаной ёй вайны, хоць і неабходнай з гледзішча на будучыню і маючай усе шансы перамогі, калі-б у вайне гэтай меў быць зьнішчаны савецкімі атамнымі бомбамі Нью Ёрк.

Гэтая апошняя акалічнасьць прамаўляе таксама за тым, што Амэрыка ня толькі не распачне прэвэнцыйнай вайны, але магчыма будзе намагацца, каб такой вайны не распачалі й Саветы, хоць-бы й былі паважныя дадзеныя, што ў вайне гэтай перамога была-б за Амэрыкай. Палажэньне-ж галоўнага партнэра Амэрыкі — Вялікабрытаніі яшчэ горшае. У выпадку вайны брытанскія астравы былі-б першай і галоўнай мэтай савецкіх атамных бамбардаваньняў. Пра эўрапэйскі кантынэнт і гаварыць ня прыходзіцца.

Усё гэта зьяўляецца найгалоўнейшай прычынай страху Захаду перад атамнай вайной. Змора атамных зьнішчэньняў не дае спаць ня толькі шэрым абывацэлям Захаду, ня толькі страціўшым пачуцьцё ўсякай рэальнасьці інтэлектуалістым, але й цьвярозым палітыкам і дасьветчаным дзяржаўным мужом заходніх дзяржаваў. І тут знаходзіцца галоўнае жарало коэгзыстэнцыйных канцэпцыяў. Спосаб думаньня заходняга чалавека можна прадставіць гэтак: сяньняшняя вайна зь няўхільнай атамнай адплатай Саветаў зьяўляецца раўназначнай з поўным зьнішчэньнем. Дзеля гэтага за ўсякую цану трэба гэтую катастрофу калі не адхіліць назаўсёды, дык прынамсі паўстрымаць і як мага адцаліць у надзеі, што час прынясе нейкую шчасьлівую развязку. Адныя вераць, што суіснаваньне з Савецкім Саюзам усё-ж такі магчымае пры больш лагоднай палітыцы Захаду, іншыя думаюць, што камуністычная сыстэма з часам разложыцца шляхам натуральнае эвалюцыі, а іншыя пакладаюць свае надзеі на нутраную рэвалюцыю ў Савецкім Саюзе, якая зьмяце агрэсыўны камуністычны рэжым. Яшчэ іншыя спадзяюцца, што магчыма выламіцца з пад падпарадкаваньня Маскве кітайскі Мао-Тсэ-Тунг, а за ім і ветмінскі Го-Чы-Мін. І г. д., і г. д.

На нашую думку, усё гэта толькі пабожныя зычэньні. Цяжка паверыць, каб нешта ў камуністычным сьвеце магло зьмяніцца на карысьць Захаду бяз удзелу Захаду.

### АРУЖЖА, МАЦНЕЙШАЕ ЗА АТАМНАЕ

Мы не зьяўляемся прыхільнікамі новай сусьветнай вайны, хоць-бы яна й прывяла да зьнішчэньня бальшавізму. Мы разумеем, што такая вайна ў атамную эру мусіць прынесьці калясальныя страты й зьнішчэньні, ахвярамі якіх у першую чаргу сталася-б Беларусь, як найдалей высунутая на захад частка Савецкага Саюзу.

Але Захад мае ў сваім распараджэньні іншае аружжа, магчыма мацнейшае за атамнае і для Саветаў страшнейшае, толькі, на жаль, гэтага аружжа ён ня хоча выкарыстаць. Гэтым аружжам зьяўляецца ідэя вызваленьня паняволеных бальшавізмам народаў. Работніцкае паўстаньне ў Усходняй Нямеччыне і бунт вязьняў у Варкуцкіх лягерах прымусовае працы зьяўляюцца дастатковымі доказамі, што ідэя вызваленьня, калі-б яна была пастаўленая ўва ўсёй сваей шырыні і была палітычна й прапагандова належна падтрыманая Захадам, сталася-б тэй непераможнай зброяй, зь якой Савецкі Саюз быў-бы змушаны вельмі сур'ёзна лічыцца й здаць не адну сваю пазыцыю на карысьць паняволеных народаў і заходняга сьвету.

Нельга ўважаць, што Захад, перадусім Амэрыка, не дацэньвае патэнцыяльнае сілы паняволеных народаў. Калі амэрыканская рэспубліканская партыя ішла на апошнія прэзыдэнцкія выбары пад лёзунгам палітыкі вызваленьня і тым самым перамагла, дык значыць гэта, што ў Амэрыцы і вядучыя палітыкі і шырокія грамадзкія колы ведаюць цану антыкамуністычным імкненьням паняволеных народаў. Пазьней-жа гэтая вызвольная амэрыканская канцэпцыя была здадзеная ў архіў. Прычыны гэтага трэба дашукавацца ў тэй-жа палітыцы коэгзыстэнцыі, што заняла месца нярэалізаванай яшчэ палітыкі вызваленьня.

І вось тут, на нашую думку, хаваецца корань усяго зла. Для нікога не сакрэт, што аўтарамі палітыкі суіснаваньня зьяўляецца ня хто іншы, як бальшавікі, што яны якраз выступаюць у ролі найбольш гарачых апосталаў коэгзыстэнцыі. А гэта гаворыць за тым, што гэтая коэгзыстэнцыйная канцэпцыя ў першую чаргу якраз патрэбная бальшавіком, і то дзеля дзьвюх мэтаў. Папершае па тое, каб усаніць чуйнасьць Захаду на камуністычную небясьпеку, разброіць яго псыхалягічна ды перашкодзіць яго абаронным мерапрыемствам у форме рэалізацыі Заходня-Эўрапэйскай Вуніі і ўзбраеньня Заходняй Нямеччыны. Падругое па тое, каб, дражняючыся на эўрапэйскім адрэску фронту халодные вайны коэгзыстэнцыяй, рэалізаваць свае пляны ў Азіі. Гэтую крэмлёўскую палітыку расшыфраваць даволі лёгка, калі ўзяць пад увагу цікавае зьявішча, што ў Азіі камуністыя зусім ня выступаюць зь лёзунгам коэгзыстэнцыі. Там яны гавораць аб канечнасьці бескампрамісовага змаганьня з заходнімі каляніяльнымі дзяржавамі за нацыянальнае вызваленьне і дзяржаўную незалежнасьць азіяцкіх народаў. Лёзунг аб коэгзыстэнцыі прызначаны выключна для Заходняй Эўропы, тага адрэску сусьветнага змаганьня, дзе Масква патрабуе даўжэйшага перамір'я.

Але клаі ў Азіі зробіць Масква парадак і гэтае перамір'е ў Эўропе ня будзе ёй патрэбнае, дык напэўна пакончыць тады і з палітыкай коэгзыстэнцыі. Такім чынам Захад, калі-б прыняў савецкую канцэпцыю аб коэгзыстэнцыі, гэтым памог-бы толькі Саветам рэалізаваць іхную палітыку.

Таму інтэрас рэальнай палітыкі Захаду вымагае адкінуць няшчырую крэмлёўскую канцэпцыю аб суіснаваньні і мець сваю собскую, выразна азначаную і дакладна распрацаваную палітычную канцэпцыю, якую мог-бы проціставіць усякай канцэпцыі бальшавіцкай. Дык адзінай рэальнай такой канцэпцыяй і магла-б быць палітыка вызваленьня, якая дала-б магчымасьць Захаду перабраць ініцыятыву ў свае рукі і на доўгі час прыводзіла-б да няўхільнага нутранага аслабленьня Савецкага Саюзу. Такая палітыка ўзмоцніла-б Захад маральна, бо тады перад ім стаяла-б вялікая шляхотная мэта, а ня ідэйная пустата. Паняволеныя бальшавізмам народы скіравалі-б тады ўсе свае надзеі на Захад, бачучы ў ім адзінае сваё збаўленьне. Гэтак пастаўленая на моцныя рэйкі палітыка вызваленьня, пасьлядоўна й бескампрамісна праводжаная, магла-б стацца пачаткам канца камуністычнай зморы, а разам зь ёй і найбольшага зла на сьвеце.

Язэп Каранеўскі

# Аб заданьнях беларускага студэнцтва

**Ад Аўтара:** Гэты артыкул быў прызначаны для Агульнага Зьезду БСТА 4-га верасьня сёлета. Пакольki пытаньні, закранутыя ў гэтым артыкуле, ёсьць актуальныя для ўсяго беларускага студэнцтва, просіцца ласкава Рэдакцыю газэты «Бацькаўшчына» зьмясьціць гэты артыкул на балонках паважанага часапісу.

*

Заданьні Беларускага Студэнцтва на эміграцыі можна падзяліць, як вынікае з тэмы гэтага артыкулу, на дзьве аснаўныя часьці: заданьні, як студэнтаў, у вагульнасьці і заданьні, як Беларусаў, у васаблівасьці.

### I. ЗАДАНЬНІ ЯК СТУДЭНТАЎ У ВАГУЛЬНАСЬЦІ

Кажны із студыюючых ідучы на ўнівэрсытэт у першую чаргу думае аб здабыцьці прафэсыянальнае асьветы, аб здабыцьці прафэсіі, якая найбольш адпавядае індывідуальным здольнасьцям і заданьням, у якой даная студэнтка ці студэнт надзеіцца знайсьці як спосаб здабываньня матарыяльнае асновы для жыцьця, так і духовае самаздаваленьне.

Значыць выбар прафэсіі гэта справа чыста індывідуальная, і тут фактычна ніхто ня мае права рабіць якую-колечы інтэрвэнцыю. Тым ня менш, ведаючы вымогі, як у даны час прамысловасьці і навукі, так і прадбачачы развой даных у будучай свабоднай Беларусі, некаторыя парады, асабліва для тых будучых беларускіх студэнтаў, якія яшчэ ня ўступілі на вышэйшыя навуковыя ўстановы, могуць быць карыснымі. Бальшыня нашых студэнтаў мужчынскага роду студыюе розныя галіны інжынерыі. Няма сумлеву, што гэта прафэсія дае добры фах у рукі і для тых, хто сапраўды душой адданы гэтай прафэсіі, прыходзіцца толькі злажыць кангратуляцыю.

Аднак можна думаць, што здараюцца выпадкі, калі некаторыя із моладзі ідуць на інжынерыю проста пад уплывам другіх асоб, зь недахопу інфармацыі аб другіх галінах веды, або пад уплывам агульна выробленага пагляду, што інжынерыя гэта «найбольш пэўная прафэсія». Гэты пагляд ёсьць хвальшывы. Другія галіны веды ня ў меншай ступені даюць вялікія магчымасьці працы і ў ня меншай ступені будуць важныя для свабоднай у будучыне Бацькаўшчыны. Няма найменшага сумлеву, што ў незалежнай Беларусі адна з галоўных уваг будзе аддана падняцьцю, стабілізацыі і далейшага разьвіцьця народнае гаспадаркі. Гэта будзе адбывацца як у галіне падняцьця большае прадуктыўнасьці нашых палёў і лясоў, так і ў разьвіцьці сельскагаспадарскай і лясной тэхналёгіі. Для гэтага будуць патрэбныя высака кваліфікаваныя фахоўцы. Дзеля гэтага хочацца асабліва заклікаць моладзь да студыяваньня хіміі, галіна навукі сяньня так закінутая нашым студэнцтвам, да таго галіна так шмат абяцаючая на сяньня і на будучыню. Хімія, апрача вялікіх магчымасьцяў працы беспасярэдна ў галінах чыстае хіміі, дае аснову да далейшае спэцыялізацыі ў галіне сельскагаспадарскае вытворчасьці, як малочная тэхналёгія, фэрмэнтатыўная індустрыя, кансэрвацыя гародніны, ягад, фруктаў, тэхналёгія мясных прадуктаў, абработка скуры, і другія; у галіне лясное тэхналёгіі: выраб штучнага шоўку, цэлюлёзы, паперы, дзеравянага сьпірту, і т. д.; далей, у галіне тэкстыльнай прамысловасьці, выробу гумы з каксагізу і тэхналёгіі торфу, які ў даны мамэнт уходзіць у прадукцыю плястмасы, як адна зь вельмі цэнных паводля хімічнага складу сыравіна.

У сувязі з гэтымі галінамі прыкладнай хіміі ідзе запатрабаваньне таксама на інжынераў-хімікаў і індустрыяльных інжынераў, галіны веды, якія таксама амаль забытыя нашым студэнцтвам. У галінах хіміі (таксама ў галіне мікрабіялёгіі, глебазнаўства, ды вышэйшых студыяў па фармацыі) нашыя веды славянскіх ды нямецкае моваў даюць нам вялікія шансы напрыклад у Злучаных Ш. А. атрымаць стыпэндыю або перакладчую працу ў часе студыяў і шмат лепшыя магчымасьці атрымаць больш платную і больш рэпутацыйную працу пасьля сканчэньня студыяў; знаньне чужых моваў ёсьць вялікаю палёгкай у працы для навуковае ступені — гэта ў галоўным адносіцца да хімічных і біялягічных галінаў веды — для тых, хто мае на гэта здольнасьці і амбіцыю. Апрача інжынерыі ды хіміі ёсьць вялікае запатрабаваньне на эканамістых, настаўнікаў, матэматыкаў, фізыкаў, ды другіх; тут хочацца падбадзёрыць да студыяваньня таксама тых, хто мае замілаваньне да палітычных, сацыяльных ды гістарычных навукаў. Хаця працу атрымаць у гэтых галінах рэлятыўна цяжэй, як па другіх галінах, аднак хто мае сапраўдную адданасьць да гэтых галін веды, адпаведную здольнасьць, ды на канец дзякуючы сяньняшняму нашаму палітычнаму палажэньню, няма асноў баяцца аб атрымаваньні добраплатнай працы, не гаворачы аб тых вялікіх карысьцях, якія эвэнтуальна можа мець адсюль наша палітычная эміграцыя.

Так што ў выбары прафэсіі ў галоўным трэба кіравацца пачуцьцём пакліканьня да данае прафэсіі.

Апрача здабываньня фаховых ведаў ня менш важным заданьнем студыяў ёсьць здабываньне маральна-культурных якасьцяў характару, якія зьвычайна мусіць мець кажны акадэмік. Пасьля сканчэньня студыяў кажны абсальвэнт будзе выконваць ня толькі свае прафэсіянальныя абавязкі, але будзе забавязаны таксама быць актыўным сябрам, як сваёго беларускага, так і акружаючага грамадзтва, прычыняючыся да ягонага культурнага росту. Таксама ў працы прафэсіянальнай, асабліва на кіруючым становішчы, агульна людзкія культурныя якасьці ёсьць неабходнымі. У якасьці нашага беларускага грамадзтва таксама неабходна патрэбная новая зьмена людзей зь вялікімі, ня толькі фаховымі, але і культурнымі якасьцямі. Мы былі самі сьветкамі нараз такіх грамадзкіх зьявішчаў сярод інтэлігенцыі, як нездаровая амбіцыя, пераацэнка сваіх і недаацэнка другіх пэрсанальных здольнасьцяў, смага да ўлады, анархія, як вынік эгаізму, недахоп пачуцьця грамадзкае адказнасьці, асабліва калі справа з грамадзкімі грашыма, і т. д. Дзеля гэтага ў часе студыяў нельга абмяжоўвацца толькі здабы-

(Заканчэньне на 4-ай балоне)

І спускаецца на ролі,
Дзе расла яна, красуня,
У пяшчаным доле».

Чуеш казку ты? — пытае.
А яна пад той шумок
Сьпіць салодка... Дзень вітае,
Цьма расходзіцца густая,
Радасьць суліць ім дзянёк.
Сьпіць Гануся ціха-роўна,
Ружавеюць яе шчочкі:
Нікнуць з твару цені ночкі,
А ён цешыцца бясслоўна.
Вось з-за лесу ўстала сонца,
Рассыпае касьнікі,
Залатыя ручнікі,
І цалуе праз аконца
Зьбітых кудзер валаконцы,
Жылкі сінія рукі.
І ў вадказ на тое зьзяньне
Сьмех ёй вусны асьвятліў:
То — яе душы сьвітаньне,
Сілы сьвежае прыліў.

—

Я разьвітаюся з Сымонам —
Тут круг замкнут адзін, а там
Сваім звычайным ходам-гонам
Пачнуцца новыя кругі —
Яшчэ далёкі берагі,
Аб іх раскажа повесьць вам,
Ужо ня я, а хто другі.
Пайшоў Сымон сваёй пуцінай,
Бо ён прыроджаны пясьняр.
Панёс ён людзям песень дар —
Агонь душы і сэрца жар,
Панёс пясьнярскай каляінай.
Рука ў руку зь ім і з ахвотай
Дзяўчына мілая ішла.
Пад сховам дзеўчага крыла
Гарнула далі пазалотай,
І не кранала іх журбота,
Не засмучала іх імгла.
І ўжо ў пуці, ідучы зь ею,
Як надыйшоў той час-пара,
Дакончыў казку пра лілею
І пра птушыну-песьняра.

(Канец)

## Канчатак у першай рэдакцыі

ЧАСЬЦЬ V

V

Лета сілу набірала
І буйныя каласы
Шчыра хлебам напаўняла
І на радасьць пшчолкам дбала,
Мёдам грэчку напаўняла,
Срыбра кідала ў ваўсы...
Поле, поле, гмах шырокі!
Ты ў разложных берагох
Небасхіл дзяржыш далёкі
І раськідваеш валокі,
Сеці цэлыя дарог;
Ты чаруеш дух прасторам,
Воляй сэрца весяліш,
А чаго глядзіш з дакорам
І хлябоў зялёным морам
Ты шуміш... аб чым шуміш?
І чаго у жар паўднёвы
Над табою, бы туга,
Бы жальба, той сум бяз мовы,
Цісьне сіняя смуга?
Што ў смузе тэй захлынулась?
І чаму ў яе, зачым
І само ты агарнулась
І сукрыла сэрца ў ім?
На курганчык той, дзе колісь
Разьвіталіся яны,
Дзе дарогі раскалолісь —
Тры таму назад вясны —
Зноў цяпер Сымонка ўсходзіць
Месца тое павітаць:
Стаў і поглядам абводзіць
Даль палёў, нябёсаў гладзь.
Вунь дарога між прысады
Двух радкоў старых бяроз...
Ён шчасьліў быў тут і рады,
Ён душою тут узрос,
І гарчэчу расставаньня
Як ніколі, тут ужыў...
І шчасьлівае спатканьне
Ён яшчэ раз перажыў...
А чаго-ж цяпер акрыла
І яго, бы даль палёў,
Невядомай тугі сіла
Бяз прычыны і бяз слоў?
Як на тога чужаніцу,
На яго глядзіць і лес
І скрозь хмарак вакяніцу
Стрэлы сонейка зь нябес.
Страх, развага і сумленьне
Сталі хлопца пашыбаць:
Што ён знойдзе і сустрэне?
Што ён мае ёй сказаць?
Мо даўно ён там забыты
І для Ганны стаў чужы,
Бы той зельлем апавіты
Цяжкі камень на мяжы.
Ды сярод тых думак горкіх,
Праганяючы ўвесь страх,
Вочкі Ганны, як дзьве зоркі
Хлопца клікалі на шлях
І так гожа пазіралі,
Так сьмяяліся яму,
Што бясьсьледна праганялі
Гэтых думак чорных цьму.
І чаго-ж тут сумлявацца?
Ці ня мае ён правоў
З тым, зь кім хоча спатыкацца
І каму душой аддацца
Быў заўсёды ён гатоў?
Дык што-ж думаць? Сьмела, браце,
Ў пуць! дарог назад няма,
Гайда, покуль сілак хваце,
Покуль дзень ня зьменіць цьма.
Гоніць хлопец прэч трывогу,
Як паганы які сон,
І з кургану на дарогу
Зварачае зноў Сымон.
Крокам мерным між бярозак
Зь сябрам-кіем ён ідзе.
Зь лісьцем ветрык ў гушчы розак
Мову розную вядзе
І калыша іх, гайдае
Цешыць іх, бы тых дзяток;
Збоку ветру ў тахт сьпявае
Гутарлівы ручаёк...
Песьні — зьявы падарожжа!
Колькі гожасьці у вас!
Што мілей размовы збожжа
На палёх у летні час!
Што прыемней даляў гэтых,
Ледзь павітых у туман,
І лясоў, ў смугу адзетых,
Ўзгоркаў зьвітых караван?
Што цікавей хмар страшэнных,
Громаў гучных, іх сыноў,
І маланак, слуг нязьменных
Грозных страшных пяруноў!
Што таёмней зор бліскучых,
Зор дрыготных, бы жывых,
Што ўвасобку і у кучах
Сьвецяць ў багнах векавых!
Казкі — зьявішча дарогі!
Колькі мар ў далячыне!
Хай-жа Бог цаліць вас, ногі,
Што вы носіце мяне!
Вось дарожка ў бок ад шляху
Павілася паміж ніў.
Хлопец стаў, цясьней пад паху
Скрыпку-сябру прытуліў
І гарнітур апраўляе,
Шапку гне крыху на бок,
Пыл дарожны абівае,
Гразь даўнейшую, пясок.
Блізка ўжо тут і з узгорка
Ўся гаспода іх відаць,
Навет нейчая гаворка
Ці ня зь іх двара чуваць?
Вось і дом і сад вішнёвы,
Хіба можна іх забыць?
Колькі думак, колькі мовы
І ўспамінак там ляжыць!...
Хлопец доўга, як прыбіты
Воч з гасподы ня спускаў
І ў задуму апавіты
Ганну поглядам шукаў.
Вунь і дуб стары, пахілы,
Хвойнік, жоўценькі пясок...
Ці ня там ён, вобраз мілы,
Сьмех і звонкі галасок?
Ня відаць яе! Трывога
Агарнула хлопца зноў,
Незнаёмага, чужога
Для тутэйшых жыхароў...
Сонца круг свой замыкала,
За заслонаю лясоў
У пазалоце неба зьзяла
І памалу заціхала
Мова дзённых галасоў.
Ён на момант адарваўся,
Погляд кінуў — насустрэч
Хтось павольна шыбаваўся,
Галаву прыгнуўшы да плеч, —
Йшла жанчына. Параўналась,
Вочы бліснулі спад броў,
А спад хусткі выбівалась
Косма сівых валасоў.
Прыпынілася, ўсьміхнулась.

(Заканчэньне будзе)

# Пісьмо у Рэдакцыю

**ВЫСОКАПАВАЖАНЫ, СПАДАРУ РЭДАКТАР!**

Не адмоўце, калі ласка, у бліжэйшым нумары «Бацькаўшчыны» зьмясьціць наступнае:

Ніхто ня можа выступаць супраць карыснасьці здаровай палемікі — яна, дакладней кажучы, у ейным ходзе, больш выпукла выяўляюцца прынцыповыя разыходжаньні ў паглядах і падыходзе да пэўных важнейшых праблемаў ці мамэнтаў грамадзка-палітычнага або навуковага жыцьця. У выніку такой незласьлівай дыскусіі (толькі дыскусіі не дзеля самой дыскусіі) ейныя ўдзельнікі часта самі знаходзяць нейкія пункты паразуменьня, а іхным слухачом ці чытачом, на аснове двубаковых, а часта й шматбаковых довадаў і выкладак, лягчэй самім вырабіць, скрысталізаваць, свой асабісты пагляд, што можа пакрывацца або із тым паразуменьнем бакоў, або, калі такога паразуменьня не наступіла, з больш пераконваючымі аргумэнтамі палемізуючых.

Аднак, як сьвет сьветам, кажны шануючы сябе і тых, хто яго мае слухаць, ці чытаць, у такіх выпадках выступае на «поле бою» зусім адкрыта і не хаваецца пад якімісь неартыкуляванымі гукамі накшталт **«пс...»**, ці **«пчх!..»**, калі-ж ужо яму больш да твару гэнае «пчх!..», то, прынамся, устрымоўваецца ад асабістых дацінкаў свайму праціўніку і не чапляецца, як п'яны плоту, да пасобных словаў, абы толькі разьдзьмухоўваць гэта да нейкага прынцыповага і нагвалт патрабуючага разьвязаньня пытаньня.

Нешта падобнае здарылася ў зацемцы «Варта» ў 41 нумары «Бацькаўшчыны» ад 7. 11. 54 г., дзе якраз якоесь «пс» (хай мне даруе за «якоесь» асоба, што крыецца пад «пс», бо, нажаль, ня маю гонару ведаць, навет, спадар гэтае «пс» ці спадарыня) ні з таго ні зь сяго ўзьняло палеміку з прычыны надрукаваньня майго артыкулу аб адчыненьні чарговай сэсіі Генэральнай Асамблеі ЗН, артыкулу зусім ня дыскусійнага парадку ды адразу-ж, успомненае «пс», таксама ні з таго ні зь сяго, ласкава пачало мяне прызначаць на «пасаду дырэктара гімназіі дзесь у Міры ці Нясьвіжы» і, навет, «дазваляе» мне сігануць вышэй: «на менскім унівэрсытэце набіваць бедным студэнтам галовы гістарычнай ліпай». Вельмі ўдзячны за такую ласкава высокую ўвагу!

Нам ня ведама ды й ня цікава ведаць, дзе, хто, калі і якой ліпай набіваў шаноўную галаву «пс», але вынікі гэнага «набіваньня» вылезьлі самі ў вышэйпрыведзеных алюзіях, што, нібы-то мелі дапамагчы ў разьвязаньні «жыцьцёва-пякучай праблемы дня»: ці варта было будаваць палац ЗН (!). Тымчасам, калі ўважна прыгледзіцца да нашага скромнага артыкулу, там гэтая «праблема» зусім ня ставілася, як дыскусійнае ці галоўнае пытаньне, а была ўжыта выключна, як рэтарычны зваротак, што падмацоўваў разьвіцьцё асноўнай думкі: бяссэнсіцу якіх-колечы спробаў слоўнага, не падмацаванага сілай, уміратварэньня сьвету, маючы за партнэра бальшавізм. Аўтар артыкулу аб працы ЗН падаваў толькі факты і зусім ня важыўся «даваць добрыя парады дэлегатам ЗН», бо на гэта ня меў ніякіх паўнамоцтваў, таму гэты закід яму ня вытрымоўвае ніякай крытыкі, калі-ж «пс» мае тое й другое, то, калі ласка... цікава будзе паслухаць, можа ўрэшце сьвет будзе ашчасьліўлены...

Вельмі ўдзячны «пс» яшчэ й за тое, што хацела нас «разчараваць» новым адкрыцьцём Амэрыкі, сьцьвярджаючы, што «існуюць і іншыя дэмакратычныя краі», аднак, хоць яны запраўды існуюць, то, як-бы гэта ня было прыкра «пс», ні ў якім выпадку іхнае існаваньне не пярэчыць факту, што ЗША адзіная краіна поўнай і запраўднай дэмакрацыі, і зусім гэтыя словы ня могуць «гучэць прыкрым скрыгатам». Гэты факт не патрабуе шмат довадаў, хопіць аднаго дробнага: у ЗША ніхто із грамадзянаў гэтага вольнага краю, навет чужынцы, не забавязваецца да паліцыйнага мэльдунку свайго месцапражываньня, чаго нельга сказаць пра іншыя дэмакратычныя краі. У заключэньне, прашу ўзяць пад увагу, што ліст гэты, ні ў якім выпадку не зьяўляецца палемічным выступленьнем, бо палемізаваць няма аб чым, а ўсяго толькі высьвятленьнем, як часамі дарэмна высіляюцца людзі знайсьці дзірку ў цэлым, вось і ўсё.

З пашанай: **Андрэй Сьвіслацкі**

# Дзень Гэрояу у Нью Ерку

Ужо ўвайшло ў традыцыю, што ўсе беларускія эміграцкія арганізацыі ўгодкі Слуцкага паўстаньня адзначаюць, як Дзень гэрояў, што загінулі за Бацькаўшчыну. Сёлетні абыход Дня гэрояў у Нью Ёрку, так, як і папярэднія гады, ладзіў аддзел вэтэранаў. Як і заўсёды ўрачыстасьць пачалася службай Божай у царкве Сьв. Тройцы, адпраўленай Архіяпіскапам БАПЦ Васілём у суслужэньні духавенства БАПЦ ў нядзелю 28-га лістапада.

А гадзіне 3-яй папаўдні ў вялікай залі Ірвінг Гай Скул на 18-ай вуліцы адсьпяваньнем амэрыканскага нацыянальнага гымну хорам пад кіраўніцтвам сп. Валюшкі распачалася ўрачыстая акадэмія. Прыгожае па зьместу ўступнае слова Старшыні Нью-Ёрскага аддзелу вэтэранаў сп. Б. Данілюка закончыла часіна цішыні й харавое выкананьне «Сьпяць пад курганам».

Рэфэрат аб угодках Слуцкага паўстаньня прачытаў Старшыня БАЗА акругі Нью Ёрк сп. К. Мерляк, а пасьля невялікага перапынку была скромная мастацкая частка.

У мастацкай частцы вельмі мілае ўражаньне зрабіла дэклямацыя Ані Стома, 10-ці гадовай дзяўчынкі із Нью-Брансьвіка, што выйшла на сцэну ў густоўна аформленай нацыянальнай вопратцы, з пачуцьцём прадэклямавала верш В. Данілеўскага «Надыйдзе час» і датуль ня зышла із сцэны, пакуль ня далі ёй нагоды задэклямаваць яшчэ «Мая Беларусь».

Із старэйшых дэкляматараў выступала сп-ня Мерляк — верш Л. Геніюш «Беларуска».

Сп-ня Э. Р. Зубковіч з пачуцьцём выканала на піаніна прэлюд Б-моль Рахманінава і «Ля ракі» камп. Карповіча. Зусім ня блага прагучэлі «Слуцкія ткачыхі» і «Ой Лявоніха» ў выкананьні Г. Дарашэвіч і Г. Орса. Хор пад кіраўніцтвам сп-ра Валюшкі меў вельмі цяжкае заданьне: апынуўся на выступленьні ня ў поўным складзе, бо падвяла моладзь, што была затрымалася на футбольным мэчы і ў час не пасьпела на выступленьне. Давялося самому старшыні БАЗА сп-ру Тулейку ў народнай песьні «А ў нядзелю раненька» экспромтам, бяз папярэдняй падрыхтовы, замяняць салістага ад моладзі і, трэба зацеміць, што вельмі ўдала. Наагул належыцца высокае прызнаньне, як самому кіраўніку хору, гэтак і ягоным удзельнікам, асабліва тым, што прыбылі ізь Нью-Брансьвіку — Саўт-Рывэру, за адважнае і ўдалае правядзеньне сваёй праграмы, будучы ня ў поўным колькасным камплеце. Адначасна із гэтым варта зацеміць таксама, што ўсімі моцна адчувалася гэтым разам адсутнасьць у Нью Ёрку нашай выдатнай опэрнай сьпявачкі сп-ні Барбары Вержбаловіч і ейнай пляменьніцы Галіны.

Наагул-жа кажучы, сёлетняе сьвяткаваньне Дня гэрояў у Нью Ёрку прайшло ня так удала, як у папярэднія гады. Вэтэраны, БАЗА і моладзь у будучыні павінны лепш плянаваць і карэгаваць сваю працу, каб не распыляцца ў вадным і тым самым часе на колькі мерапрыемстваў із шкодай адно другому, як гэта здарылася сёлета. Варта было-б ужо падумаць і аб пэўным адыходзе ад традыцыйнага ўкаранелага даволі нуднага шаблёну сухасьці нашых акадэміяў. Вядомая рэч, што там, дзе не хапае сілаў, выдумаць нешта арыгінальнае даволі цяжка, але пра Нью Ёрк з ваколіцамі гэтага сказаць нельга.

**Л. Г.**

**ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ БЕЛАРУСКІЯ КНІЖКІ — — ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

# Аб заданьнях беларускага студэнцтва

**(Заканчэньне з 3-яй балоны)**

ваньнем фаховых ведаў, а трэба знайсьці час на пазапраграмную актыўнасьць, як удзел у розных культурных гуртках унівэрсытэту, наведваньне культурных вечароў, лекцыяў, тэатру, музычных выступленьняў, ды чытаньне агульнаэдукацыйнае клясычнае літаратуры.

## II. ЗАДАНЬНІ ЯК БЕЛАРУСАЎ У ВАСАБЛІВАСЬЦІ

Нас доля закінула ў акружэньне дэмакрацыі ня толькі для здабываньня прафэсіі ды культурных якасьцяў характару для сваіх прыватных карысьцяў, але таксама для таго, каб мы сваімі здольнасьцямі і ведамі маглі, на сколькі ўмовы пазваляюць, дапамагчы нашаму пакутнаму народу на Бацькаўшчыне, калі не беспасярэдна цяпер, то для лепшае ягонае будучыні, тым больш што права голасу ў самаабароне ёсьць нашаму народу адабрана. Нашым заданьнем ёсьць інфармаваць заходні сьвет аб палажэньні нашага народу пад бальшавіцкім ярмом, аб ягоным культурным і нацыянальным вынішчэньні, аб жудасным сацыяльным і эканамічным палажэньні і аб тым, чаго ўзапраўды наш народ хоча. Як людзі вышэйшае асьветы, мы мусім глядзець далей, чымся толькі на патрэбу асвабаджэньня нашага народу з пад бальшавіцкага ладу, мы мусім прапагаваць тыя ідэі, на якіх наш народ зможа тварыць лепшае і трывалае заўтра пасьля зьнішчэньня бальшавізму. Ідучы за воляй народу і будучы часткаю таго-ж народу, мы не патрабуем шукаць тэй галоўнай ідэі, вакол якой наша дзеяньне павінна канцэнтравацца. Гэта ідэя была высказана самым беларускім народам на Першым Усебеларускім Кангрэсе ў Менску ў 1917 годзе і аб'яўлена для ўсяго сьвету 25-га сакавіка 1918 году. Актам Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Вакол гэтае ідэі павінна ў будучыні, як гэта было і ў прошласьці, вясьціся наша прапагандовая і арганізацыйная праца. Аб гэтым, я думаю, што сярод беларускага студэнцтва няма разыходжаньняў, ды ня толькі сярод студэнцтва, але і сярод усяе беларускае эміграцыі, ня гледзячы да якога палітычнага ўгрупаваньня яна належыць.

Гледзячы аднак на тое, што бальшыня заходня-эўрапэйскіх, а асабліва амэрыканскіх палітыкаў па пытаньнях Савецкага Саюзу стаіць за фэдэрацыю падсавецкіх нерасейскіх народаў з народам будучай «дэмакратычнай» Расеі, думка, якую асабліва паддзержваюць і пашыраюць усе расейскія эміграцыйныя групоўкі, ня гледзячы на іхныя разыходжаньні і навет на змаганьне па другіх пытаньнях, мы мусім мець ясны свой пагляд на гэтую праблему. Бяручы пад увагу гістарычную мінуўшчыну, сяньняшнюю запраўднасьць на Беларусі, геаграфічнае палажэньне Беларусі, ды стан дачыненьня Расейцаў да пытаньня фэдэрацыі, мы мусім сабе ясна ўяўляць, што ўсякая фэдэрацыя з Расеяй без адначаснае фэдэрацыі з вольнымі народамі Эўропы будзе няміпуча весьці да нацыянальнага прыгнечаньня і вынішчэньня Беларусаў як нацыі. За гэта гутараць такія фактары:

а) Беларусаў амаль 6 разоў менш за Расейцаў і таму кажная фэдэрацыя з Расеяй будзе весьці зь сягам часу да палітычнае залежнасьці Беларусі ад Расеі.

б) Палітычная залежнасьць будзе весьці няміпуча да культурнае і эканамічнае залежнасьці.

в) Паколькі Беларусь задалёка сягае на захад, зь якім яе вяжуць шмат большыя культурныя сувязі, як з Расеяй, а з другога боку этнаграфічныя межы Беларусі задалёка сягаюць на ўсход, расейская палітыка будзе заўсёды накіраваная да ўзмацненьня палітычнага ціску і кантролі над Беларусяй.

г) Каб гэты ціск ня быў так балючы, Расейцы будуць старацца вырабляць такія ўмовы эканамічныя, сацыяльныя і культурныя каб Беларусы псыхічна адчувалі патрэбу быць у фэдэрацыі з Расеяй і маглі бачыць у кажнай праяве расейшчыны адпаведную вышшасьць у параўнаньні з кажнай праявай беларушчыны. Гэта значыць, што Расейцы будуць старацца, каб узровень культурны і эканамічны Беларусі быў ніжэй, як у Расеі, гэта значыць, што свабода і раўнапраўе будуць абмежаваныя і што міт аб «старэйшым браце» будзе далей прапагаваны.

д) Знаючы палітычную мінуўшчыню Расеі, звычайна грозны характар Расейца палітыка ды цяга да імпэрыялістычнага расшырэньня цэнтральнае ўлады, **успомненыя плыні Расейскае палітыкі** у якой колечы сфэдэраванай Беларусі з Расеяй будуць праводжаныя бяз сумленьу тымі-ж самымі мэтадамі што і цяпер, гэта значыць русыфікацыяй, арыштамі, высылкамі ў Сібір, і т. д. Ёсьць толькі адна магчымасьць фэдэрацыі з Расеяй, гэта забыцца, што мы Беларусы, і то тады яшчэ вякамі будзе да нас недавер дзеля нашай гістарычнай прошласьці ў дачыненьні да Расеі. Гэта мы добра бачым на прыкладзе тых адзінак, якія згубіўшы ўсё, што беларускае, мусяць звычайна зьніжацца да ступені бескампраміснага слугі, каб атрымаць якуюсь працу ці пратэкцыю ад расейскіх уплывовых колаў.

**(Далей будзе)**

**А. Дунін**

# Беларускі канцэрт у Гішпаніі

У нядзелю 28 лістапада сёлета ў залі Каледжу Сьвятога Якуба ў Мадрыдзе адбыўся канцэрт беларускіх песьняў і музыкі з грамафонных плітак. На праграму зпажыліся рэлігійныя песьні ў выкананьні лювэнскага Беларускага Студэнцкага Ансамблю, арыя Міхася з опэры «Міхась Падгорны» Цікоцкага ў выкананьні Балоціна, беларускія народныя песьні ў выкананьні таго-ж лювэнскага Ансамблю, хору Рыгора Шырмы, а таксама ў выкананьні хору пад кіраўніцтвам Р. Пуксты. Із салёвых нумароў былі выкананыя: «Стаіць вярба» ў выкананьні Фурс, «Ой арол» у выкананьні Варвулева. Зь беларускіх народных песьняў іграліся: «Лявоніха» ў вапрацаваньні Я. Жыновіча, «Мікіта», «Юрачка» і «Крыжачок»; усе ў выкананьні аркестры пад кіраўніцтвам таго-ж Я. Жыновіча. Канцэрт быў закончаны «Пагоняй» у выкананьні лювэнскага Беларускага Студэнцкага Ансамблю.

Вялікая заля Калежу была перапоўненая студэнтамі. Прысутнічалі тут прадстаўнікі ад дзесяцёх народаў, паняволеных сяньня бальшавікамі, студэнты з паўдзённаамэрыканскіх краінаў, Кітайцы і гішпанскія студэнты. Многім зь іх хацяя і няраз ужо прыходзілася чуць аб Беларусі, упяршыню аднак давялося пачуць мілагучныя беларускія мэлёдыі, гэты прыгожы вытвар беларускае народнае душы. Выражэньні твараў прысутных дакладна гаварылі аб тым уражаньні, якое зрабіла на іх беларуская песьня. Побач із захапленьнем яе прыгаствам, заўважвалася таксама і зьдзіўленьне, выкліканае багацьцем беларускае народнае творчасьці. Задаваленьне канцэртам было агульнае і аб гэтым выразна сьветчыла бура воплескаў.

Калі напасьледак папыталіся аднаго студэнта Вэнэцуэльца, ці яму, прывыкламу да паўдзённаамэрыканскіх рытмаў, не за сумнымі выдаліся беларускія народныя песьні і канцэрт наагул, ён адказаў: «Праўда, песьні вашыя сумныя і навет у тых, якія выдаваліся-б быць вясёлымі, таксама адчуваецца нейкі сум, але яны лёгка даходзяць да самага сэрца».

**С. С.**

# ПАДЗЯКА

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Аддзел у Саўт Рывэр — Нью Брансьвік, складае шчырую падзяку ўсім тым, што зпажылі ахвяры на «Калядны Падарак» суродзічам у Эўропе. Ахвяры зпажылі:

1. Ул. Кабушка — 10 дал., 2. А. Стагановіч — 10 дал., 3. В. Стома — 10 дал., 4. Ч. Ханяўка — 10 дал., 5. Б. Даніловіч — 10 дал., 6. А. Протас — 1 дал., 7. Я. Азарка — 3 дал., 8. Ф. Родзька — 5 дал., 9. Г. Русак — 5 дал., 10. П. Кулеш — 10 дал., 11. К. Бітус — 2 дал., 12. Б. Міхайлоўскі — 1 дал., 13. Я. Місюль — 2 дал., 14. А. Круцька — 0,5 дал., 15. Ул. Харавец — 1 дал., 16. М. Сільвановіч — 1 дал., 17. М. Бязручкевіч — 1 дал., 18. З. Дубяга — 1 дал., 19. Я. Дубяга — 1 дал., 20. А. Корбут — 3 дал., 21. А. Будзька — 2 дал., 22. В. Леўчук — 1 дал., 23. М. Лабовіч — 1 дал., 24. Я. Чыгіровіч — 2 дал., 25. Я. Бабёр — 2 дал., 26. Я. Вініцкі — 2 дал., 27. А. Кудасаў — 2 дал., 28. Ул. Лосік — 2 дал., 29. М. Войтэнка — 1 дал., 30. А. Балкоўскі — 2 дал., 31. М. Манькоўская — 3 дал., 32. Ул. Машанскі — 2,5 дал., 33. С. Гутырчык — 1 дал., 34. Мядэйка — 1 дал., 35. М. Кажура — 3 дал., 36. Б. Русак — 2 дал., 37. В. Грузд — 2 дал., 38. Т. Грыгальчук — 2 дал., 39. М. Каранеўскі — 3 дал., 40. Др. М. Сокал — 5 дал., 41. Юрка Стагановіч — 1 дал. **Усяго разам — 130.00 даляраў.**

Зь вялікай прыкрасьцю мусім сьцьвердзіць і тое, што сярод нас знайшліся і такія, якія адмовіліся падпісацца на лісьце ахвяраў з прычыны «матарыяльных цяжкасьцяў». Аднак-жа гэтыя «цяжкасьці» ня перашкаджаюць ім наведваць кіно (і то даволі часта), езьдзіць па гасьцёх у іншыя гарады і г. п. Людзі хутка забыліся аб горы братоў, тым больш што гэтае гора ня так даўно перажывалі самі.

**Управа БАЗА, Аддзел Саўт Рывэр — Н. Брансьвік**

## Нашыя Прадстауніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
**Vasil Šcećka,** 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
Section Bielorussiene de C.F.T.C. 26, Rue de Montholon, Paris 9.
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič,** 60 Fisher St., East Brisbane, Q-ld.
Mr. M. Palashuk, 17 Sparks Ave, Fairfield, Vict., Australia.
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St., East Perth, W. A. Australia.**

**Бразылія:**
**Carlos Cimafejčyk,** Prasa 76, Tiridentes Curitiba - Parana.

**Канада:**
Prince Arthur Lunch, 73, Prince Arthur St. E. Montreal, Q., Canada.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
b) **Mr. M. Serdeczenko,** 7851 Sherwood Ave, Detroit 11, Mich.
c) **Mr. V. Duniec,** 2502 W. 7. St., Cleveland, Ohio.
d) **Mr. E. Budzka,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у пасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**

**Фэльетон**

# Армія дармаедау

Беларускі народ спакойны, сьціплы, але далёка ня тупы. Навет бязь перасолу й шавінізму можна было-б сказаць, што Беларусы вельмі растаропныя й зусім хутка цямяць усё добрае, карыснае й прыгоднае. Насельніцтва Барысаўскага раёну хіба таксама не адрозьніваецца ад іншых. Але вось неяк палітнавукі, тэорыі марксізму, пастановаў ЦК партыі ды іншай гэтак званай перадавой макулятуры ніяк ня могуць там разгрызьці.

Як нас 3-га сьнежня інфармуе радыё Менск, у Барысаўскім раёне абіваецца аж 1320 агітатараў. Як бачым, колькасьць вялікая. Калі ў кажным раёне таксама таўчэцца па 1320 агітатараў, ды трэба думаць што так і ёсьць, а цяперашняя БССР падзелена на 175 раёнаў — дык бачым, што на Беларусі непрадуктыўна пераварачвае прапагандовую мякіну аж 230 тысяч дармаедаў. Рэч зразумелая, што гэта яшчэ ня ўсё, бо даходзяць прыдуркі з штабаў прапаганды. У суме аграмадная армія...

І чаго-ж яны вучаць беларускага калгасьніка й работніка? А вось нам выясьняе радыё Гродна, якое 22-га лістапада кажа скромна: «Вядуць растлумачальную работу аб правох і абавязках савецкага грамадзяніна». Далей радыё дадае: «Вялікая работа праводзіцца сярод калгасьнікаў раёну».

Мы-бы сказалі, што радыё Гродна перасаліла. Бо калі ходзіць аб правы, дык зусім гэтыя аратары ня маюць чаго рабіць, бо савецкі грамадзянін мае гэтых правоў вельмі-ж мала. А што да абавязкаў, то іх праўда за шмат, але наш зацюканы калгасьнік аж за добра іх ведае, бо яны яму заснуць не даюць. З газэтаў, афішаў, радыёрупараў, сьценных газэтаў яго глушыць разьдзіраючая прапаганда: «выканаць! перавыканаць! здаць! перадаць! дадаць! наддаць! аддаць!» і гэтак далей, без канца. Аднак мудраму кіраўніцтву роднай камуністычнай партыі гэтага бачна не хапае. За кажным калгасьнікам, кажнай сьвінаркай ці даяркай яшчэ мусіць таптацца па пятах агітатар. Кепская, відаць, перадавая навука перадавой партыі, калі 37 гадоў не хапіла, каб яе ўбіць у галовы Беларусам.

Ува ўсім сьвеце ад яго пачатку прынялося, што веда здабываецца ў школах, з кніжак, цераз дасьветчаньне. Камуністыя перавярнулі шыварат на выварат, замест добрага падручніка яны суцуць верасьнёўскія ці чэрвеньскія пастановы пленуму ЦК КПСС, прамову Хрушчова ці іншую сечку. Прафэсары й праўдзівыя навукоўцы сякуць лес на Пячоры, а напалову граматныя прапагандыстыя вучаць грамадзтва. Але навука перадавая.

Мы-б зьвярнуліся да мудрага калектыўнага кіраўніцтва роднай партыі з канкрэтнай прапановай: даць беднаму калгасьніку й работніку крыху супакою, а гэных усіх 230 тысяч агітатараў змабілізаваць на асваеньне заляжалых земляў. Хай пазнаюць, як цяжка мазалём здабываць хлеб і яшчэ цяжэй аддаваць яго ненасытнаму дракону-дзяржаве.

Яшчэ-б лепшае мы запрапанавалі, а паймена, каб і калектыўнае кіраўніцтва таксама загадзя выбралася на цалінныя землі, пакуль выведзены зь цярплівасьці народ не пашле яго туды, але ўжо ў няветлівай форме.

Але ці гэта Маленкаў, Хрушчоў і супалка зразумеюць без прапагандыстых? Сумлеўна...

**пс**